# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 7 (1657) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 14 ЛЮТАГА 1988 г. ЦАНА 12 зл.



**Варшава, 1982 год. Ад імя ГП ТППР адзнаку „Заслужаны для польскай культуры“ ўручае Адаму Мальдзісу (стаіць злева) Юзаф Озга-Міхальскі.**

## З Адамам Мальдзісам — паміж Данчыкам

Нават нашаму чытачу, даволі аддаленаму ад спраў вялікай беларускай літаратуры, Адама Мальдзіса асабліва прадстаўляць не трэба. Напомнім усё ж: **доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс** афіцыйна з'яўляецца загадчыкам аддзела дакастрычніцкай літаратуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР. А наогул, дык гэта вядомы даследчык беларускай літаратуры, аўтар дзесятка, бадай, кніг, трактуючых найчасцей аб беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязях, чалавек, без удзелу якога мала што адбываецца ў сучасным беларускім літаратурным руху.

І таму, калі 7 лістапада мінулага года я апынулася ў Мальдзісаў на вячэры, не магла паўстрымацца... і, нягледзячы на ўрачыстыя абставіны і прысутных гасцей, выпрасіла ў слаўнага вучонага інтэрв'ю.

У кабінеце Адама Мальдзіса па-свойску і, так сказаць, літаратурна. Малодшы сын, які раней дзяліў гэты пакой з бацькам, якраз у войску.

Адразу робім фон: настаўляем адну з дзвюх пласцінак амерыкана-беларуса Данчыка, прысланых гаспадару з далёкай Амерыкі, і пад чароўныя гукі Данчыкавага спявання беларускіх народных песень пачынаем размову.

**— Пане Адаме, у беларусазнаўстве, ды й наогул у беларускай літаратуры, дзеюцца**

(Працяг на стар. 6)

## выказванні

Перш чым пачаць гэтыя радкі, я не мог яшчэ раз не з'ездзіць на сваю Астравеччыну. Каб узнавіць у памяці густы пах свежага жыта, таямнічы пошум сасновых бароў, ціхае цурчанне крынічнай Лошы. Каб сустрэцца з людзьмі, сярод якіх узрос, пачуць ад іх сакавітае, непаўторнае слоўца, са шкадобай разам паразважаць аб тым, як хутка бяжыць гэты няўмольны час.

**У час паездак на радзіму не раз мне здавалася, што вось-вось вернуцца з небыцця краявіды, колеры, гукі і пахі дзіцячых гадоў. Але ўсюды былі ўжо іншыя краявіды, колеры, гукі і пахі. Гадоў сорак назад па вёсках не бялелі цагляныя мураванкі, праз поле не ішлі чароды камбайнаў, не беглі слупы электраліній, не надрываліся, буксуючы ў пяску і распускаючы клубы бензінавага куродыму, цяжкагружаныя самазвалы. І толькі аднойчы, калі я, унутрана сцяўшыся, паволі ішоў да старога, закінутага дома (нядаўна ён згарэў), што ў парадзелай, „бесперспектыўнай“ вёсачцы Расолы, на нейкае імгненне прыйшло адчуванне, нібы табе зноў дзесяць год і нібы ты зноў гоніш вулачкай, што абрасла бэзам, з пашы карову. Але дастаткова было глянуць праз шчыліны ў дошках, якімі калісь, выязджаючы, забілі вокны, пабачыць пакрытыя цвіллю нейкія зусім пачужэлыя сцены, каб адразу ж вярнуцца ў сённяшнюю рэальнасць, яшчэ раз канстатаваць спрадвечную ісціну, што час адваротнага бегу, на жаль, не мае.**

**(З кнігі Адама Мальдзіса „З літаратуразнаўчых вандраванняў“).**

**ВЯРТАЕМСЯ ДА НАРОДНАГА**

## БЕЛАРУСКІЯ ПАЯСЫ

У рэдакцыю прыйшло пісьмо ад чытачоў з Бельска.

„Мы нядаўна пачалі выпісваць „Ніву“, — пісаў Янка Масальскі. — Мы з жонкай вельмі цікавімся народнымі матывамі ўвышыўцы, асабліва ў беларускай, але ў „Ніве“ мы нічога такога не бачым. Жонка шмат вышывае. Яна хацела б што-небудзь вышыць з беларускага адзення ці ўбранства хаты. Цікавяць нас асабліва слуцкія паясы і ўзоры вышыўкі на беларускіх кашулях крыжыкам ці ў васілёчкі. Можа б вы надрукавалі ў газеце трошкі аб гэтым і паказалі, як такія рэчы робяцца. Вельмі просім расказаць пра слуцкія паясы. Сардэчна дзякуем. (Подпіс)“

Вядома, сёння тэхнічны прагрэс і вучоныя стварылі многа новых матэрыялаў і іншых сродкаў для ткацтва ці вышыўкі. Але жыццё паказала, што ніякія нейлоны ці стылёны не заменяць натуральных матэрыялаў — льнянога палатна, воўны ці шоўку. Таму ўсё, што будзем вышываць, няхай будзе на добрай ільнянай тканіне: блузкі, фартухі, кашулі — на тонкім выбеленым ільне, а ручнікі ці абрусы — на моцным палатне, выбраным па вашаму густу. Але аб спосабах вышыўкі пагаворым іншым разам, а сёння адкажам на пытанні чытачоў.

Слуцкія паясы, як падае Беларуская савецкая энцыклапедыя, — гэта вырабы ручнога ткацтва на Беларусі ў другой

(Працяг на стар. 4)



**НА мяжы**

# АБ ГАЛАСАВАННІ Ў СПРАВЕ РЭФОРМЫ

Як вядома, у канцы лістапада 1987 года было ў нас праведзена галасаванне ў справе рэформы. Праціўнікі рэформы ў Народнай Польшчы пайшлі ў атаку. Гэта яны на вуліцы, у замежных радыёвяшчаннях, у надпольнай прэсе заліваліся непаслядоўным хорам. Істота яго зводзілася да таго, што і галасаванне і рэформа — гэта зло. А зло таму, што ініцыюе іх афіцыйная народная ўлада. Здзівіла мяне, калі даведаўся я, што адзін наш беларус, які працуе, здавалася б, у „рэжымнай" установе — у радыёвяшчанні, катэгарычна заявіў наступнае: „Паводле нашых прагнозаў, у галасаванні возьме ўдзел толькі трыццаць працэнтаў упаўнаважаных, але ўлады і так скажуць, што галасавала каля васьмідзесяці працэнтаў насельніцтва і што болей як пяцьдзесят працэнтаў усіх упаўнаважаных галасавала за рэформу". Адным словам, прыпісваў ён уладам ашуканства. Аказалася аднак, што маніў якраз гэты няўдачны журналіст. Улады не сказалі, што галасавала восемдзесят працэнтаў, і не сказалі, што болей як пяцьдзесят працэнтаў упаўнаважаных галасавала за рэформу. Наадварот, улады паінфармавалі, што галасавала прыблізна семдзесят працэнтаў і што толькі сорак чатыры працэнты ўпаўнаважаных галасавала за рэформу. Калі б спомнены журналіст меў гонар, дык прызнаўся б, што зманіў. Ён аднак гэтага не зрабіў.

Зрэшты, хачу гаварыць не аб журналісце, а аб прынцыпах, якія былі прыменены ў часе галасавання.

Ведаем, што прэзідэнты ЗША, Францыі і многіх іншых дэмакратычных краін выбіраюцца трыццаццю, трыццаццю пяццю працэнтамі ўпаўнаважаных да выбараў грамадзян. Аднак аказалася, што ёсць краіна, у якой абавязваюць тыя ж крытэрыі, якія былі застасаваны ў нашым лістападавым галасаванні. Гэтай краінай з'яўляецца Японія. Напэўна, многія чытачы памятаюць аб адным дзеячу, які заяўляў, што збудуе ў Польшчы другую Японію. Зразумела, што гэтыя дэкларацыі выклікалі смех у асяроддзі людзей, якія рацыянальна думаюць і маюць рэальнае паняцце аб Японіі.

Праўда, не збудавалі мы другой Польшчы і не збудуем другой Японіі, аднак, дзякуючы волі Сейма, зраўняліся з Японіяй у выбары крытэрыяў галасавання. Сейм пастараўся даказаць, што ён выступае за большую дэмакратыю, чым тая, якая выступае ў заходніх краінах. Магло б здавацца, што трэба поўнасцю падтрымаць такую волю нашай уставадаўчай улады. Аднак я асабіста не падтрымліваю. Думаю, што калі б паслы прыпомнілі сабе тыя выбарчыя прынцыпы, якія іх завялі ў Сейм, дык, мабыць, не паставілі б перад звычайным галасаваннем зусім новых, чым у час сеймавых выбараў, прынцыпаў і крытэрыяў.

Пасля галасавання многія паслы спявалі пеаны і гаварылі, што ідэя рэформы прайграла, але выйграла дэмакратыя. Я асабіста не згаджаюся з такім суджэннем. Чаму? Таму, што не разумею, чаму гэта ўсе тыя, што не прымалі ўдзелу ў галасаванні, былі патрактаваны як тыя, хто галасаваў супраць рэформы. Такая трактоўка фальшывая. Асабіста ведаю некалькі чалавек, якія з'яўляюцца прыхільнікамі рэформы, аднак з прычыны хваробы ўдзелу ў галасаванні не прымалі. Дзякуючы дзівосным выбарчым прынцыпам мае знаёмыя таксама залічаны ў лік ворагаў рэформы. А калі так, дык маю падставы да таго, каб гаварыць, што такая ардынацыя не з'яўляецца трыумфам дэмакратыі, а перамогай безгалоўя.

Вось з гэтых прычын не толькі не захапляюся тым, што сталася, але рашуча асуджаю метады, якія па сутнасці скіраваны супраць рацыяналізму. І таму не цешыць мяне тое, што мы „дагналі Японію", бо дагналі не ў той галіне, у якой варта было яе даганяць.

**Алесь Барскі**

<u>**Перадз'ездаўская дыскусія**</u>

# НЕАБХОДНА АБНАЎЛЕННЕ

Кастусь Сідаровіч у артыкуле „Не выбіраць фігурантаў" („Ніва" № 4 ад 24.I.88 г.) закрануў вельмі важныя праблемы, якія неабходна рашыць, каб актывізаваць беларускі культурны рух у Польшчы, каб абнавіць і аздаравіць атмасферу ў БГКТ і вакол яго. Трэба, каб БГКТ стала сапраўдным прадстаўніком беларускай меншасці ў Польшчы і „закапёршчыкам" яе нацыянальна-культурнага руху.

Таварыства не можа быць адным з многіх бюракратычных апаратаў. А вядома ж, што бюракратычны апарат (у якой краіне б ён не быў), заўсёды варожа адносіцца да дзеяння і грамадскай актыўнасці.

Не хачу называць канкрэтных асоб, у крытыцы нашага асяроддзя гэта не прынята. Амаль ва ўсіх аддзелах фармальна існуюць фігуранты. Гэта — ці то старшыні, ці то члены праўленняў. На жаль, у гэтых фігурантаў ёсць колькасная перавага. Праўда, прысутнічаюць яны на пленумах аддзелаў ці іншых імпрэзах „забававага характару", але „дзейнасць" іхняя ў гэтым, бадай, толькі і праяўляецца. Маладыя амаль адсутнічаюць у праўленнях аддзелаў, а гэта найбольш ініцыятыўная група.

На жаль, давер да БГКТ надта зменшыўся. З гэтага вынікае грамадскае патрабаванне: Таварыству неабходна абнаўленне!

**Мікола Сахарэвіч,**
**г. Бельск**

# З ДРУКУ

## І Ў ЛЮБЛІНЕ ЎЖО ВЕДАЮЦЬ

І ў Любліне ўжо ведаюць пра беларусаў. Тутэйшая штодзённая газета „Штандар люду" ў сваім навагоднім нумары змясціла артыкул „Нашы беларусы" Станіслава Ядчака. Публікацыя гэтая вельмі карысна адрозніваецца ад падобных ёй у іншых польскіх газетах. Відаць, што аўтар пастараўся сабраць інфармацыю і трохі пачытаць пра гісторыю і культуру Беларусі. Праўда, шмат-дзе проста паспісваў ён з кніжкі „Беларусь, Беларусь" Сакрата Яновіча, але прынамсі ўчыніў гэта сумленна, не крыўляючы душою. Хоць мог бы ён ужо, нарэшце, перастаць надакучаць нам тым фактам, што ў часы акупацыі быў у Беластоку паднямецкі Беларускі камітэт, уплыў якога на беларускае тут насельніцтва не з'яўляўся настолькі значным, як можа падумаць мала сарыентаваны ў гэтым польскі чытач газеты. Непатрэбны напамін, які ў некаторых выклікае жаданне свайго роду ліцытацыі тыпу „і палякі не без грахоў". Недакладнасцей у артыкуле можна знайсці больш. Няпраўда, што беларусы займалі важнейшыя пасады ў адміністрацыйным і палітычным апараце на Беласточчыне ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі. Аўтар не разумее, што далёка не ўсе дзеячы беларускага паходжання адчувалі сябе беларусамі менавіта (наадварот, дамінавала сярод іх польская патрыятычная свядомасць).

Надзвычай трапна заўважае Станіслаў Ядчак польскую трактоўку беларускай з'явы: адсутнасць прызнання беларускага патрыятызму. Нават нясмелыя праявы беларускай нацыянальнай свядомасці палякі часта трактуюць як нацыяналізм. І тое ж паняцце нацыяналізму зусім не прымяняецца з іх боку ў дачыненні да нярэдка крайняга польскага нацыяналізму, усё роўна як быццам нацыяналістамі могуць быць усе іншыя, толькі не палякі... Гэта, вядома, сведчанне няспеласці народа, загледжанага ў свой пуп. Меншых памылак не буду напамінаць аўтару, якому і так варта падзякаваць за сімпатычнае ўрэшце-рэшт зацікаўленне нашай нацыянальнай меншасцю, ды і Беларуссю ў цэлым. Тым не меней хочацца паправіць: тыраж „Нівы", пане Ядчак, у сярэднім значна вышэйшы за тыя няцэлыя чатыры тысячы экземпляраў...

А ўпачатку артыкула чытаем: „Беларус з Беласточчыны, настаўнік піша: Звычайны паляк шмат больш ведае пра жменьку татарскага насельніцтва ў нас, чымсьці пра нейкі чвэрць мільёна беларусаў..."

Вось і маем гатовы падказ спосабу, каб у Польшчы пісалі пра беларусаў: трэба, каб самі беларусы пасылалі падобныя лісты ў рэдакцыі, прымушаючы іх зацікавіцца намі, зрабіць прысутнай беларускую тэматыку ў польскай публіцыстыцы. Калі самі сабе не дапаможам, дык якое маем мы права чакаць помачы ад кагосьці? — сказаў П. Байко з Гайнаўкі, якому дзякуем за дасланне нам выразкі гэтага артыкула.

**(ся)**

# ВАЛЬНЫ СОЙМ ПАД МІНСКАМ

Пад канец мінулага года, 26-27 снежня, адбыўся Вальны Сойм беларускіх патрыятычных суполак. Мясціну дзеля гэтага выбралі ўдала, у маляўнічым кутку Міншчыны, у Палачанцы, што пад Ракавам. Тлум быў вялікі, а гэта ж усяго толькі прадстаўнікі асобных суполак прыехалі, такіх, як вядомыя ўжо „Тутэйшыя", „Талака", „Нашчадкі", „Няміга", „Паходня", „Край", „Узгор'е", „Маладзік". Іх цяпер без ліку, і ўзнікаюць усё новыя!

У Вальным Сойме прынялі ўдзел госці з Літвы, Украіны, з Масквы. Прычым з Масквы прыехалі не адны прадстаўнікі падобных рускіх аб'яднанняў, але і... беларускіх там.

У рабоце Вальнага Сойму ўдзельнікавалі лідэры беларускай камсамольскай арганізацыі, прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларускай ССР і Беларускага фонду культуры.

З асаблівай цікавасцю слухалі сабраныя выступленне вядомага вучонага З. С. Пазняка, які здолеў ахапіць ды пераканаўча выказаць аргументы ў пытаннях нацыянальнае свядомасці, гістарычнае памяці, духоўнае культуры. Выкрываў ён сутнасць механізму таталънае бюракратыі, калі не органы ўлады маюць голас, а адміністрацыйныя работнікі і ўсякія функцыянеры. Калі выканаўчая ўлада пераўтвараецца ва ўстаноўчую, а ўраднік адчувае сябе важнейшым за дэпутата і т.п. Кабінетнае кіраванне дзяржаваю.

Вальны Сойм беларускіх патрыятычных суполак прыняў пастановы, якія датычаць перш за ўсё пашырэння ўжывання беларускай мовы ў рэспубліцы, што дазволіць пашырыць грамадскі рэзананс наогул беларускай нацыянальнай культуры (мова — гэта фундамент культуры!). Будуць зроблены захады дзеля таго, каб вярнуць канстытуцыйныя гарантыі беларускай мове ў культурным, грамадскім і палітычным жыцці Беларускай ССР. Адначасна шмат увагі прысвечана ў гэтых рашэннях праблемам аховы помнікаў гісторыі Беларусі, а таксама яе прыроды і натуральнага асяроддзя чалавека (экалогія!).

Вальны Сойм прайшоў у настроі вялікага энтузіязму, што і не дзіўна, калі дадаць, што з'ехалася сюды амаль выключна моладзь. У гонар моладзі трэба запісаць, што яна заўсёды і ўсюды крочыць на чале ўсякіх пераменаў і рэвалюцыйных здзяйсненняў.

**В. Мартыненка, Мінск.**




## ВЫКУПІЦЬ „ПАНА ТАДЭВУША"

Прачытаў я артыкул Алеся Барскага аб „Пану Тадэвушу", які быў выдадзены альштынскім „Паезежам". Думаю, што гэтую кніжку павінны людзі выкупіць. Яна унікальная і па-свойму вельмі каштоўная. Калі ж не выкупяць яе, пакінуць ляжаць і плеснець у магазінах, дык у будучым будзе надта цяжка гаварыць з гэтай выдавецкай фірмай пра надрукаванне наступных кніжак на беларускай мове.

Ці гэты „Пан Тадэвуш" трапіць пад стрэхі? Можа і трапіць... Але яшчэ не бачыў я такога чалавека, які прачытаў гэтую паэму ад пачатку да канца. Нават вучні, замест намагчыся прачытаць гэты несмяротны твор Міцкевіча, усяляк выкручваюцца ад гэтага, карыстаючыся рознымі апрацоўкамі, пераказамі. А калі ўжо і чытаюць, дык адно той фрагмент, такі эратычны, ну, пра тых „мурашак"...

Цікава, чаму так?! Ёсць жа ў паэме сапраўды захапляючыя фрагменты! Здаецца, стамляе чытача рыфма, шляхецтва твора, вяльможнапанскія героі, ды ўсё такое не з нашага свету (акрамя вопісаў прыроды, бо прырода вечная). Таму многія людзі і адносяцца да кніжкі „Пан Тадэвуш", як да нейкага музейнага экспаната ў сваёй кватэры, які сведчыць усяго толькі пра культурнасць сям'і. Паставяць яны на паліцу гэтую кніжыцу і так яна там пыліцца, ніколі не возьмуць яе ў рукі.

У гэтым беларускім выданні „Пана Тадэвуша" трэба браць пад увагу яшчэ і тую акалічнасць, што з'явілася яно на свет Божы не тады, калі павінна было, паўвеку назад, а толькі цяпер. Мова цяпер ужо не тая, і сам пераклад не высокага лёту, даволі слабы, ёсць лепшыя на цэлае неба, напрыклад, Язэпа Семяжона з Мінска. Трэба быць самому паэтам, каб перакладаць „Пана Тадэвуша". Браніслаў Тарашкевіч не быў паэтам, быў філолагам.

Тым не менш, запасы гэтай кніжкі трэба выкупіць, трэба ўсім нам зрабіць так, каб выкупіць. Гэта справа нават не чытачоўскай цікавасці, але проста нацыянальнага нашага гонару! Вось так.

**Рышард Бутайла**

## ДЗЕЛЯ РАЗНАСТАЙНАСЦІ

Вайну, як і жыццё ўвогуле, можна паказаць у літаратурнай або нейкай іншай форме — усебакова. Адзін аўтар пакажа яе вачыма дзіцяці, іншы — „у прасторным рамане" раскажа аб ёй шырэй. І чым большая праўда пра яе жудасць, безнадзейнасць, пра чалавечы ваенны лёс паказана ў мастацкай форме, тым большая вартасць самога мастацкага твора.

Ёсць маленькае „але" да таго, што напісаў М. Панфілюк у „Ніве" ад 6.12.87 г. Каб узвысіць Сакрата Яновіча як аўтара „Эпі-

(Працяг на стар. 11)



## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Харошча. Вул. Міцкевіча. Мал. Ул. Петрука.*

# БЕЛАРУСКІЯ ПАЯСЫ

(Працяг са стар. 1)

палове XVIII і пачатку XIX стагоддзя. Назву атрымалі ад горада Слуцка, дзе ўпершыню пачалі вырабляцца ў гэтак званых персіярнях. Спачатку на слуцкай, а потым і на іншых мануфактурах, капіравалі ўзоры прывезеныя з Блізкага Усходу, потым пачалі ўключаць у арнамент і беларускія матывы, як мясцовыя кветкі — васількі, рамонкі, макі, цэлыя расліны і букеты. Ткаліся паясы даўжынёй ад 2 да 4,5 метраў, шырынёй 20-40 см з шаўковых, залатых і срэбных нітак. Склаўся тып пояса — слуцкі, назва яго стала сінонімам усіх доўгіх шаўковых паясоў. Такія паясы выраблял іся і ў Кракаве, Гродне, Нясвіжы, Ружанах і іншых мясцовасцях, нават у Францыі. Паясы рабіліся аднаніцавыя і двухліцавыя (з адваротным бокам), а нават чатырохліцавыя (па ўсёй даўжыні былі падзелены розным па колеры ўткам). Пояс складаецца з трох частак: сярэдзіна, абляморка (шлячок) і канцы. Сярэднік арнаментаваўся папярэчнымі ўзорамі, абляморка была вельмі рознай, а канцы ўпрыгожваліся багатымі букетамі кветак, часам у вазах або проста на зямлі, часта канцы заканчваліся фрэндзлямі. На паясах, якія вырабляліся ў Слуцку, пераважна былі меткі — „Слуцк" або „Зроблена ў Слуцку" або „у горадзе Слуцку".



**Прыклад двухліцавога, шаўковага пояса, дзе выразна бачым падзелены напалову сярэднік, багатая абляморка вакол пояса і букеты кветак на канцах.**

Так выглядалі слуцкія паясы. Але нельга забываць, што паясы гэтыя, тканыя з прывазнога шоўку, залатых ці срэбных нітак, былі вельмі дарагія. Маглі іх купіць толькі багатыя людзі. Звычайныя ж сяляне апраналіся проста, а адзежу сваю рабілі з таго, што маглі вырабіць самі і ўласнымі сіламі яе ўпрыгожыць. Таму ў склад народнага адзення ўваходзілі якраз не слуцкія, а звычайныя, саматканыя, з воўны і ільну паясы. Яны былі таксама вельмі прыгожыя. Тканыя з чырвоных, зялёных, фіялетавых, жоўтых і сініх нітак. Часам аснову рабілі з ільну, а ўток быў з воўны. Уся яго прыгажосць заключалася ў колерах і прыгожых арнаментах. Шырыня такога пояса была ад 2 да 6 см, а канцы пераважна ўпрыгожваліся фрэндзлямі ці кутасікамі. Абодва тыпы паясоў вы бачыце на малюнках.

У далейшым рэдакцыя мае намер знаёміць чытачоў з прыкладамі вышыўкі на розным беларускім адзенні — кашулях, блузках, фартухах, ручніках і іншым. Будзем знаёміць з майстрамі рукадзелля, якія яшчэ і па сённяшні дзень займаюцца народнай вышыўкай. І вельмі ж

*Сакрат Яновіч*

# ЗАНАТОЎКІ З АНГЛІІ

## — 5 —

У кожны мой прыезд у Лондан здзіўляла мяне тое, што ў англічан няма добрай кухні, хоць у іх прадуктовых магазінах толькі *„птушынага малака"* нельга дастаць. Маючы рэдкага госця, яны запрашаюць яго на абед у грэцкі ці ў італьянскі рэстаранік (ёсць кітайскія, індыйскія, іспанскія, партугальскія, японскія, — словам, — усё Міжземнае мора і Азія). У англійскіх кватэрах ядуць часта і разнастайна, але неяк хутка, усё роўна што без смаку. Шмат гародніны, садавіны, ды ўсякіх экзатычных пладоў, надзвычай вітамінных. Народ тут белазубы, угадаваны. Мужчыны наогул зграбнейшыя за жанчын, акуратнейшыя і высокія. Моладзь не дурэе за джынсамі, не прападае за паказухаю, натуральная ў сваіх рэакцыях. Без комплексаў. Рана ідзе на свой хлеб, пакідаючы бацькоў, якія наракаюць на дзяцей дакладна, як у нас. Не відаць модніцтва — нават заможная англічанка ходзіць у будні ў абы-чым. У Англіі не прынята цікавіцца жыццём суседзяў.

Развіты інстынкт апякунства, спагады. Даволі выказаць нейкае жаданне і — калі яно нічога не каштуе грашыма — табе дапамогуць. Колькі часу свайго патрацілі на мяне ў бібліятэцы людзі, зусім мне чужыя і нічым не абавязаныя.

Я даўно хацеў мець сякое-такое ўяўленне пра англійскую палітыку ў яе дачыненнях з Беларуссю. Нарэшце маю перад вачыма ксераадбіткі некалі тайных дакументаў, у іх ліку і з беларускага боку, датаваныя — пераважна — 1920 годам. На жаль, гонару яны не прыдаюць нам: тадышнія нашы палітычныя дзеячы наўрад ці мелі прынамсі сярэднюю класічную адукацыю. Дрэнна пішучы на французскай або англійскай мовах, яны чамусьці разлічвалі на сур'ёзныя адносіны да іх за Ла Маншам... Захавалася копія інструкцыі аднаго з кіраўнічых работнікаў брытанскай дыпламатычнай службы, які ўрэшце-рэшт забараніў усякія кантакты з місіяй Беларускай Народнай Рэспублікі (па-сялянску бяздарнай у сваіх захадах). Трохі толку атрымлівалася, калі недавучаным беларусам пасрэднікавалі літоўцы, маючы ўжо тады сваю сапраўдную інтэлігенцыю і падтрымку ў заходніх колах (напрыклад, д-р Пурыцкіс). Нагода для роздумаў над гісторыяй беларускага нацыянальнага руху і над тым, як трэба рэальна марыць, каб не апынуцца ў дзівахах.

Прыгожы прыклад культуры думкі, мастацтва прэцыёзнасці, і стылістыкі знаходжу ў кніжцы Барбары Тапорскай і Юзэфа Мацкевіча. Над іх тэкстамі не

### ШТО З БЕЛАРУСКІМІ РАДЫЁПЕРАДАЧАМІ?!

У нашу рэдакцыю бясконца звоняць людзі і пытаюцца: „Што здарылася з беларускімі перадачамі, чаму іх няма ў суботу, вечарам, як было дагэтуль?". Маем нагоду адказаць усім адразу, хаця мы ўжо аб гэтым паведамлялі ў № 1 „Нівы" ад 1988 года. Нікуды беларускія радыёперадачы не падзеліся! Проста цяпер яны паяўляюцца на антэне ў іншы дзень і час, а менавіта ў нядзелю, а 8-ай гадзіне раніцы, адразу ж пасля канцэрта па заяўках з Масквы, і працягваюцца паўгадзіны. Перадае іх надалей Беластоцкае радыёвяшчанне на ўльтракароткіх хвалях. Слухайце беларускія радыёперадачы!

(ач)



Звычайны мужчынскі саматканы пояс з воўны або ільну, які насілі па беларускай вышыванай кашулі.

мы хацелі б, каб чытачы адгукнуліся на нашу прапанову. Можа, знойдуцца такія, што самі збіраюць народныя ўзоры, самі ўмеюць нешта прыгожа вышыць ці выгафтаваць. Падзяліцеся, сябры, з намі! Запрашаем, мілыя сяброўкі! На першай старонцы прапануем сёння адзін з матываў папулярных васількоў са шлячкам.

**Яніна Чэрнякевіч**

# ПАЖАР У НАРВЕ

(Працяг са стар. 3)

У натоўпе людзей, што збегліся ратаваць ад пажару, знайшлося трое смельчакоў, якія адважыліся ўскочыць у палаючы дом, каб праверыць, ці няма там каго. Ніхто не ведаў, дзе гаспадар, дзе яго жонка і іх дзеці.

— І хаця, на шчасце, нікога не аказалася, — працягвае свой расказ мой праваднік, — але гэтыя хлопцы ўжо не змаглі вырвацца цераз дзверы, давялося ратавацца вокнамі...

Дзе ж быў уласнік? Жонка з дзецьмі зранку адправілася ў Ваські да бацькоў. Там збіралася радня, каб адзначыць свята. Муж, механізатар у Васькоўскай спулдзельні, застаўся дома. Найперш быў патрэбны ў спулдзельні, а затым бачылі яго ў Нараўскай гасподзе, куды зайшоў на абед, падмочаны гарэлкай у сяброўскай кампаніі. Пасля абеду далучыўся да сямейнай кампаніі ў цесця ў Васьках. І тут, мабыць, дайшло да чарговай сваркі між ім і жонкай. Вярнуліся ў Нарву, дадому. Жонка рашыла нанач ехаць да брата ў Гайнаўку, бо брат забраў туды яе дзяцей. Муж не згаджаўся. Зноў завязалася сварка. Жонка не паслухалася, пайшла на аўтобусны прыпынак, муж за ёю. Тут напаткалі міліцыянера, які мужа забраў на пастарунак...

І тут след абрываецца. Падазроны ў злачынстве чалавек заяўляе, што на пастарунку яго пабілі і ён не памятае, што было з ім далей. Міліцыянеры гэтаму пярэчаць. Суд рашыў, што няма патрэбы даходзіць да праўды ў гэтым пункце справы, бо ён для яе істоты не мае большага значэння. Затое ў паясненні да прыгавору суд сцвярджае:

*„...сварка з жонкай і пабой міліцыянерамі давялі...* (імя і прозвішча) *да становішча крайняга ўсхвалявання, павялічанага нецвярозасцю"*.

Ён сам кажа, што абудзіўся 25 кіламетраў за Нарвай, аж пад Заблудавам у капіцы сена, і дагэтуль не ведае, як там апынуўся. Адтуль дабраўся да сваякоў у Беластоку і тут, мабыць, давედаўся аб пажары...

— Засталіся мы без нічога, як былі апрануты на летні час, — плача яго жонка. — Ніхто ў нічым нам не дапамог. Запісалася я вось у жыллёвы кааператыў, што ў Гайнаўцы, старшыня абяцаў, што дапаможа. І... нічога. Трэба чакаць у чарзе... І дзе мне падзецца з дзецьмі? То ж пагарэльцам даюць нейкія прывілеі!

Так, толькі не тым, што самі падпальваюць... Так сцвердзіў суд.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Пажар, які на Пятра і Паўла 1986 года ўспыхнуў вось на гэтым новым жылым пасёлку, пагражаў зніштожаннем амаль цэлай Нарвы.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### Аўкцыён у Варшаве

У днях 25-26 лютага г.г. у Доме кнігі „Універсус", што ў Варшаве на вул. Бельведарскай № 20/22, адбудзецца кніжны аўкцыён. Нашых чытачоў павінны зацікавіць у першую чаргу наступныя пазіцыі:

Poz. 43 — Baranski W., Akcja gospodarcza na ziemiach północno-wschodnich, Wilno 1934. Cena wywoławcza 240 zł.

Poz. 59. — Bergerówna J., Księżna pani na Kocku i Siemiatyczach, Lwów 1936. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 114 — Chętnik A., Spław na Narwi, tratwy, oryle i orylka, W-wa 1935. C.w. 900 zł.

Poz. 178 — Dynowski W., Barwne kufry chłopskie z okolic Wileńszczyzny i Polesia, Wilno 1934. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 388 — Kozicki S., Bój pod Lidą, W-wa 1930. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 465 — Lorentz S., Jan Krzysztof Glaubitz architekt wileński XVIII w., W-wa 1937. C.w. 600 zł.

Poz 477 — Łowmiański H., Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego, T. 1—2, Wilno 1931—32. C.w. 6 tys. zł.

Poz. 592 — Niezbrzycki J., Połesie, Opis wojskowo-geograficzny i studjum terenu, W-wa 1930. C.w. 4,5 tys. zł.

Poz. 1100 — Kolberg J., Mappa jeneralna województwa Podlaskiego, 56×42 cm. W-wa 1827. C.w. 9 tys. zł.

Poz. 1103 — Piadyszew, Mappa generalna Guberni Mińskiey..., 38×38 cm, S. Peterburg 1829. C.w. 6 tys. zł.

Poz. 1360 — Białostoczanin — Wydawnictwo P.P.S., nr 2/1901. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 1361 — Jak wyżej..., nr 3/1901. C.w. 6 tys. zł.

Poz. 1362 — Jak wyżej..., nr 4/1905. C.w. 7,5 tys. zł.

Poz. 1601 — Litografia Jana Lewickiego — „Podlasianie — Rusini", 185×170 cm. C.w. 8 tys. zł.

У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. У заказах, якія трэба кіраваць па адрасу: Warszawski Antykwariat Naukowy, Al. Ujazdowskie 16. 00-478 Warszawa, неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча, загаловак і найбольшую суму грошай, якую заказваючы можа заплаціць за выдавецтва.

**Пятрусь Байко**



бярэ дрымота. Гэтая польская пара аўтараў абараняе беларускія рацыі так, як ніхто з беларусаў! Праўдалюбам заўсёды цяжка: Тапорскую і Мацкевіча мала не заелі, калі меркаваць паводле палемікі ў эміграцкім друку ўсіх тых цэнзараў варшаўскага патрыятызму, яшчэ свежага ўпачатку шасцідзесятых гадоў. — Беларусаў трактавалі мы да вайны найгорш: мы іх не столькі баяліся або ненавідзілі, але — звычайна над звычайным — пагарджалі імі ды нават гідзіліся! І пасля гэтага ўсяго стае нам бессаромнасці лічыць сябе культурным народам! — амаль выкрыквае сваім землякам пані Тапорская, а яны аж бялеюць ад злосці на яе ды свішчуць *„у два пальцы"*, бы даўняя жулія на забытых вясковых танцах.

Дваццаць дзевятага лістапада, нядзеля..Аб тым. што гэта гадавіна трагічнай пагібелі Браніслава Тарашкевіча, успомню я потым. Іду з Таняй у госці да Лёлі і Янкі Міхалюкоў. У іхным застоллі адчуваем сябе так, быццам вярнуліся мы ў свой Беластоцкі край. І чорны хлеб ёсць (дзе яны яго купілі, у якой славянскай пякарні Лондана?). І кіслую капусту ласуем, і квашаныя агуркі, на якія карэнны англелец глядзеў бы з панікай, што задумалі яго падтруціць... І ўспаміны, успаміны: паляшуцкія вячоркі ў маладосць Янкі і кудзельніцы ў перадпаненства Лёлі, першы зімовы снег і *„гайда санкі з вышак даставаць"*, велікодныя парадкі ў веснаход за Нёманам і перадлетняя касавіца на Палессі; жыццё ідзе і не азіраецца, унукі з'явіліся, вось яны пад гарачым небам Паўднёвай Афрыкі, дзе большы сын бізнесменам, варочае мільёнамі долараў і не забывае гаварыць з бацькай-маткай па-беларуску, гадаваўся не ў бядоце, таму не дадумаўся ганьбаваць родным, ён — англічанін беларускай мовы, якому не ўтлумачыш нашых тут хворых праблемаў, палічыць іх за жарт... Праўда, чуў пра эміграцкага багача, які спявае *„Пагоню!"*, але дзіця заядла выхаваў на *„крэсавую"* шляхцянку, ані слова не даўшы яму дзедавага, рыхтык, як беластоцкі нуварыш з лапцюжнага Прыбелавежжа.

З пакутным пачуццём гартаю назаўтра дзеі драмы айцоў марыянаў з Друі, пра якую пісаў у трыццатым годзе „Kurier Wileński": „Pierwszym zarzutem z kategorii tych najcięższych jest ten, że przy ostatnich wyborach do Sejmu z okręgu Drujskiego przeszło aż trzech posłów Białorusinów (...) zgłosiła się niedawno delegacja, złożona z kilku osób i oświadczyła, że *„jeżeli kazania białoruskie będą dalej głoszone, to oni zrobią w kościele burdę, awanturę..."* За гэтым стаяў мітрапаліт Ялбжыкоўскі, чорная памяць аб якім жыве да сённяшняга дня: яго паслядоўнікі грымяць штонядзелі ў касцёлах Нарвы і Нараўкі, Гайнаўкі і Бельска, Саколкі і Дубровы. Вынікі ў іх ёсць: памятаю я Крынкі свайго дзяцінства, у якіх дзівам было тады загаварыць з тубыльцам па-польску, а цяпер тым жа дзівам лічыцца загаварыць па-беларуску менавіта! Неба і зямля, зямля і неба супроць беларускага.

І чым жа яно так награшыла? Няўжо тым, што Беларусь праз тры доўгія і важныя для цывілізацыі стагоддзі цярпела здзек і спусташэнне? Яе ўсё штурхалі назад, у сярэдневякоўе. Тапталіся па ёй, хто і калі здумаў: у ліхалецце 1648-67 гадоў загінула або была выдадзена ў палон **палова** насельніцтва, у першую чаргу ва ўсходніх акругах; у Паўночную вайну Расіі, Швецыі і Польшчы — падобнае зніштажэнне (45%); за выгнанне Напалеона, так, як і Гітлера, беларусы заплацілі найвышэйшую цану, пахаваўшы чвэрць нацыі (мала меншым няшчасцем аказалася славутае *„бежанства"*). А дадаць трэба катастрофу сталінскай калектывізацыі...

Устаем мы з каленяў ды на ўвесь рост?

(Працяг будзе)

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## КОНКУРС „КОЛЕРЫ ДРУЖБЫ"

24 студзеня ў Беластоку адбыўся ваяводскі агляд XIV Агульнапольскага дзіцячага конкурсу песні і танца „Колеры дружбы" („Барвы пшыязні"), які з'яўляецца часткай агульнапольскага конкурсу савецкай песні для дарослых.

На Беласточчыне ў гэтым конкурсе сёлета ўдзельнічала 40 калектываў, з таго ліку на ваяводскі агляд было закваліфікавана 15.

У тую студзеньскую, трохі снежную і ўжо даволі марозную нядзелю беластоцкі гарнізонны клуб расцвіў усімі колерамі вясёлкі. Кожны калектыў вельмі старанна падрыхтаваў касцюмы да кожнага нумара. Зала аж іскрылася ад яркіх чырвоных, жоўтых, зялёных, сініх, белых спаднічак, стужак у валасах, хустак, кветак. Большасць калектываў было вялікіх — па 20-30 чалавек. Найбольш масава сярод гарадоў прадставіў сябе Бельск. На ваяводскі агляд з чатырох бельскіх школ трапіла ў Беласток аж чатыры калектывы. З прыемнасцю адзначаем, што з беларускай падставовай школы № 3 былі аж два калектывы — маленькія „Жучкі" і трошкі старэйшыя „Нашы дзеці". Падрыхтавалі гэтыя калектывы Сяргей Лукашук і Галена Ягадніцкая.

Вельмі прыгожа выступілі дзеці са школы № 2 у Бельску. Яны задзівілі гледачоў прыгожым танцам і спевам, а таксама вельмі старанна прадуманымі і надзвычай эстэтычнымі касцюмамі. Рыхтавала калектыў да выступленняў салістка бельскага беларускага калектыву „Васілёчкі" настаўніца Валянціна Мароз.

Спадабаўся таксама ўсім вакальны калектыў з элементамі рытмікі са школы № 4 у Бельску — „Пломыкі". Вядзе калектыў настаўніца Станіслава Кажанеўская.

Сярод добрых знаёмых чытачам „Зоркі" ўдзельнічаў у гэтым конкурсе і дзіцячы хор з Ляўкова, які вось ужо шмат гадоў працуе пад кіраўніцтвам настаўніка Васіля Целушэцкага.

Добра таксама выступілі: калектыў беластоцкай школы № 5 пад назвай „Малы гарцэрскі", дзіцячая група з гайнаўскай „двойкі", гарцэрскі калектыў са школы № 2 у Лапах, са школы № 9 і 12 у Беластоку, школы № 1 у Чорнай-Беластоцкай, „Ноткі" з Васількова, „Стакроткі" з Сямяціч, „Калінка" з Мілейчыц.

(Працяг на стар. 10)

Уладзімір Ліпскі

## ВЯСЁЛАЯ АЗБУКА

Пачатак у папярэдніх нумарах

### ГУЛЬНЯ

Гаваркое Г гайдала Галку на галіне, гудзела:

— Галка-Галя, галодная графіня, не ганяй галубоў у галубятні, не грызі гарбузікаў на градах. Гэй-гоп-гуленькі! Гэй-гоп-гусанькі!

Гена, Грыша, Груня, Гэля гулялі ў гарадкі. Глядзяць — Г гайдае Галку, гукаюць:

— Гэй, Г, пагуляй з намі ў гарадкі.

Г кінула гайдаць Галку:

— Гушкайся, Галка, сама. Я пагуляю ў гарадкі.

Галка-Гультайка ў гвалт:

— Г, пагайдай Галку.

Галка галёкала. Г пабегла да Гены, Грышы, Груні, Гэлі. Яны гасцінна частавалі Г гарохам. Гуськом пабеглі за гарод гуляць у гарадкі.

### ДЖАЗ

Жылі-дружылі Д, Ж, З. Згуртаваліся ў дружны джаз.

Д дудзела на дудзе.

Ж іграла на жалейцы.

З званіла ў званы.

Дзень у дзень яны ігралі ў дзетсадзе, забаўлялі дзяцей!

Ду-ду-ду, жы-жы-жы, зі-зі-зі. Ду-жы-зі, ду-жы-зі. Дужымі расціце, моцна спіце...

Аднойчы Д, Ж, З запрасілі на падмогу блізкіх суседзяў — Е, Ё.

— Давайце разам дзінькаць, дзекаць, дзвынкаць.

— Екатаць, — дадала Е.

— Ёкаць, — далучылася Ё.

Зайграў джаз. Зашоргала піла: дж-дж-дж. Загула пчала: дз-дз-дз. Заекаталі, заёкалі брэменскія музыканты: е-е, е-е-е, ё-ё, ё-ё-ё!

Незвычайны джаз разбудзіў дзяцей. Пачалі дзеці пазнаваць

(Працяг на стар. 10)

## КАРЦІНКІ З ЁЛКІ Ў ПЛЁСКАХ

**У мінулым нумары мы ужо расказвалі аб тым, як гулялі дзеці ў Плёсках на навагоднняй ёлцы. Сёння прапануем яшчэ некалькі фатаграфій. На сцэне — „Пярэстая красуля" ў выкананні вучняў трэцяга класа. На іншых — гледачы.**



Фота Я. Чэрнякевіч.





## СВЯТКАВАЛІ ДЗЕНЬ БАБУЛІ

### У РЫБАЛАХ

Вельмі цікава і сардэчна вырашылі адзначыць Дзень бабулі дзяўчаткі з Рыбалаў. Пад кіраўніцтвам дырэктара вясковага дома культуры Лідзіі Мартынюк падрыхтавалі міні-тэатрык, з якім наведалі ў іх хатах трох старэйшых жанчын у вёсцы, самотных бабуль — Параску Добаш, Веру Паўлючук і Фаціму Наумюк. Бабулі гэтыя старыя і настолькі хворыя, што не бачаць, таму і з хаты наогул не выходзяць.

Дзяўчаткі спявалі ім песні, дэкламавалі вершы, гаварылі сардэчныя словы аб тым, чаму іх навучылі іхнія бабулі, прыпаміналі даўнія звычаі нашага народу і яго жыццё.

Спачатку праспявалі песню „Люблю наш край". Потым расказвалі аб здарэннях з тых даўніх часоў, мілых бабулям. Дэкламавалі вершы, выражаючыя ўдзячнасць усім бабулям. Падарылі ім кветкі. Тых кветак бабулі не бачылі, але ласкальна дакраналіся рукой да іх, адчувалі радасць і ўдзячнасць.

Дзяўчаткі з Рыбалаў Ірка Дзмітрук, Сільвія Мартынюк, Аля Свірыдзюк і Гражынка Добаш вельмі прасілі „Зорку", каб запрапанавала ўсім дзецям наведаць старых і самотных бабуль і апекавацца імі, ды не толькі ў дзень іх свята, але і заўсёды. „Ёсць у нас людзі старыя, — казалі яны, — жывуць сярод нас, і яны рады будуць кожнаму нашаму сардэчнаму слову. Мы павінны ім выказваць нашу сардэчнасць, бо мы заўсёды перад імі ў даўгу". (вв)

### У МАХНАТЫМ

На другі дзень Хрышчэння ў Махнатым у школе адбыўся вельмі ўданы беларускі вечар. Прысвечаны ён быў Дню бабулі. Падрыхтавалі яго з дзецьмі настаўнікі беларускай мовы Міранюкі — сапраўдныя майстры гэтай справы.

Здаецца, як нямнога трэба, каб нешта такое адбылося. А адначасова, колькі ж трэба ўкласці працы і ахвоты, каб так добра выйшла! А выйшла, сапраўды, цудоўна. Не адзін з гледачоў казаў: „Ну і малайцы! Проста артысты! Як так і навучыцца?" А настаўнікі гэтыя патрапяць навучыць. Паказалі гэта неаднойчы. Відаць, адданыя яны гэтай справе — нашая культура, беларускае слова вельмі блізкае іх сэрцу. А што вечар быў уданы — даволі было паглядзець на прысутных. Хоць трывожыліся бабулі, ці хоць не забудзецца чагосьці ўнук, ці добра заспявае ўнучка. Але ўсё было добра. І ў сцэнках зайгралі дзеці так, што дарослыя пасмяяліся ад сэрца. А некаторыя з мякчэйшым сэрцам аж праслязіліся ад радасці. Гэта добра. І слёзы радасці цяпер так рэдка бываюць.

Калі прагучалі словы „Бывайце здаровы", дык не адзін уздыхнуў: „Гэта ўсё? А шкада. Добра было".

Рыгор Мароз

## ВЯСЁЛАЯ АЗБУКА

(Праця́г са стар. 9)

знаёмыя гукі. Дзіва! Дзесьці дзяркач драў дзягіль. Дрозд дрыжаў на дрэве. Дзюбаты дзяцел дзюбаў у дуб. Завіруха жудасна завыла. Дождж жахліва цурчаў. Збянтэжаны зайка заенчыў.

Д, Ж, З, іх дружбакі Е, Ё пад джазавую музыку жвава заспявалі:

Заблік знайшоў зярнятка,
Зязюлю званочкам заве.
Дурэе у доме дзіцятка,
Дарослым драмаць не дае.

Дзеці дружна ўзяліся за рукі, жыва заскакалі, заспявалі:

Жабка збірае журавіны,
Жменькай жахае ў жбан.
Дзіма дзіўна дзеліць дыню,
Дзілі-дыню, дзілі-дан...

Джазам дырыгавала Ё, бо яна ег і ёсць у яе зыркія вочкі.

Да знямогі дурэлі дзеці. На здзіўленне дзядуляў і бабуль, дадому не жадалі збірацца.

Джаз змоўк. Дзетсад — на замок.

### КІЙ

У алфавіце І служыла злучнікам. Злучала літары. Спалучала іх, звязвала іх у словы. А словы — у сказы.

Аднойчы А, І, В сядзелі на коміне. Ды раптам А ўпала, В прапала, засталося І. Сумна стала. Пайшло І шукаць новых сяброў.

У алфавіце па суседству з ім жылі Й, К.

— Давайце сябраваць, — прапанавала ім І.

Пагадзіліся Й, К. І паставіла ўперадзе сябе К, а ззаду — Й. Утварылася слова КІЙ. Назвалі людзі кіем роўную палку.

Іра кіем выганяе казу з капусты, кажа:

— Ідзі, каза, карміся канюшынай.

Міша сеў на кій. Катацца на кані. Іржэ скакун пад ім. Міша крычыць:

— Імчы, мой конь-агонь, у космас!

У бабы Мілы балелі ногі. Яна хадзіла і абапіралася на кій.

Мама на кій утыкнула шчотку і мыла падлогу.

Кій спатрэбіўся ўсім.

Працяг у наступным нумары

(Працяг са стар. 9)

## КОНКУРС „КОЛЕРЫ ДРУЖБЫ“

На ваяводскім аглядзе былі прызнаны тры званні лаўрэатаў конкурсу „Колеры дружбы“ ў трох розных катэгорыях: танцавальнаму калектыву „Вясёлыя ноткі“ са школы № 2 у Бельску, вакальнаму калектыву з элементамі руху — „Пломыкі“ з бельскай школы № 4 і вакальнаму калектыву „Малы гарцэрскі“ са школы № 5 у Беластоку.

„Вясёлыя ноткі“ атрымалі кубак Ваяводскага праўлення ТППР, а „Пломыкі“ — кубак Куратарыі асветы і выхавання

Куратарыя прызнала васьмі калектывам грашовыя ўзнагароды, а Ваяводскі дом культуры ўзнагародзіў лепшых кіраўнікоў калектываў.

Калектывы, заваяваўшыя званні лаўрэатаў, выступяць 5-6 сакавіка на Цэнтральным аглядзе, які адбудзецца ў Белай Падляшскай. Найлепшыя з цэнтральнага агляду будуць вытыпаваны на дзіцячы канцэрт у Зялёную Гуру, які адбудзецца ў час Фестывалю савецкай песні.

А пакуль што расспяваных лаўрэатаў запрашаюць выступіць у тым жа клубе 18 лютага на адкрыцці салдацкага конкурсу савецкай песні.

Усе ўдзельнікі ваяводскага агляду былі запрошаны ў сапраўдную салдацкую сталоўку на не менш сапраўдны салдацкі суп.

**Яніна Чэрнякевіч**



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!

*Я, вучань пятага класа пачатковай школы ў Шымках, Марэк Грыка. Вучуся я беларускай мове і чытаю „Ніву“. Люблю „Ніву“ за тое ўсё, што ў ёй друкуецца. Думаю аднак, што замала ў ёй адгаданак і вершаў для нас. Яны вельмі нас цікавяць. Я развязаў адгаданку з трэцяга нумара „Зоркі“. Такія адгаданкі мы хочам мець часцей. Іх умеюць развязваць нават тыя, што слабей чытаюць па-беларуску. Але і яны б заахвоціліся вучыцца беларускай мове.*

**Марэк Грыка, в. Бандары 20, пошта Юшкаў Груд.**

## малюнкі школьнікаў



Ілюстрацыя да казкі „Дзедава дачка і бабіна дачка“ вучаніцы пятага класа з Дубічаў-Царкоўных Іры Дзмітрук.



## Для самых маленькіх

Мікола Малаўка

### СКОРАГАВОРКА

Рыгорка на падворку
Знайшоў скорагаворку:

Печка-гняздзечка,
Там перапечка.
Ды перапечцы
Горача ў печцы,
І перапечка
Збегла з гняздзечка.

Скажы, скорагаворка,
Ці з'еў цябе Рыгорка?

### ЗАГАДКА

Што за ключ крылаты
Знік за небакраем?
Ні гумна, ні хаты
Ім не адмыкаем.

### ЗАКЛІЧКА

Злазь, каток, з чарэні,
Не ўцякай у сені.
Ідзі, каток,
У наш гурток.
Пачытаем кніжку
Пра ката і мышку.

### ПРЫГАВОР

Ліпы, ліпы,
Расцвітайце ўсюды,
Цвету дайце
Ад прастуды,
Мёду дайце
Пчолкам,
Нам — таксама,
Каб папраўлялася
Мама.

### ДРАЖНІЛКА

Прычапіўся Апанаска,
Просіць Васіля:
— Падражніся,
Калі ласка,
Пасмяюся я.

— Апанаска босы
Ходзіць у спадніцы,
Заплятае косы,
Носіць завушніцы.

Апанаска
Біціца лезе:
— Сам,
Нябось,
Такі!..
І качаюцца
Па снезе
Дружбакі.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Памажыце экіпажу правясці касмічны карабель цераз метэарытныя палі.

## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 17, кв. 10. Алёша Серышаў, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 37. Саша Выпражкін, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 5, кв. 3. Дзіма Чэмянёў, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 84, к. 2, кв. 24. Дзіма Лапкоўскі, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 31. Андрэй Місун, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 4, кв. 89. Саша Грынкевіч, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 104. Сяргей Лeўчык, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 26, кв. 30. Дзіма Касоўскі, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 1, кв. 4. Коля Пронін, 4 клас.

* * *

БССР, 222395, Мінская вобл., Мядзельскі р-н, п. Нарач, вул. Нарачанская, 13, кв. 22 Прантарскай Таццяне. 8 клас.

* * *

БССР, 222040, Мінская вобл., Крупскі раён, ст. Бобр, вул. Заводская, 23, кв. 2. Талюка Марыне. 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 168, к. 2, кв. 73. Света Міцёхіна, 4 клас.

* * *

БССР, 220013, г. Мінск-13, вул. Я. Коласа, 6, к. 1, кв. 18. Ілона Майсеенка, 5 клас.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok. ul. Wesołowskiego 1 „Зорка“.

## НЯЎЛОЎНЫ БУМЕРАНГ

Па гарадах і па марах,
З году ў год
Любой парою
Скача ўзлётна бумеранг —
Думка хітрага настрою.

Што адгор'е,
Што скала?
Ты размах бяры крытычны.
Лепш лунае за арла
Бумеранг бюракратычны.

Да высокага стала
Скаргу грозна як ні швяргай,
Вернецца,
Як і была,
Непачутай тая скарга.

Бюракрат, не як баран
На вароты, на заяву
Пазірае.
Бумеранг
Вырашае лёгка справу.

І ляціць, ляціць адказ
Бумерангам адмысловым
Ад кіраўнікоў да мас,
Каб назад вярнуцца словам,

Што як верабей-пырхун
Абначуе ў пратаколе,
Трапятун і дзед-пяпхун
Пра сякое, пра такое

Будуць біць дзень пры дні,
Дбаць пра ўкосы, пра пасевы.
Ля сталоў,
Як пень пры пні,
Цесна прывіды пасялі,

Прывіды канкрэтных спраў,
Дзеці ўказаў,
Цыркуляраў.
Бумеранг усіх сабраў
І пячаткай атаварыў.

Над нязрушнасцю пасад
Бумеранг успомніць рухі
І, не злоўлены,
Назад
Зноў трапляе ў тыя ж рукі.

**Рыгор Барадулін**

# НІЎКА



— Аб чым можна маляць цэлую гадзіну?
— Проста нехта памыліўся нумарам...

## СУСТРЭЛІСЯ

Пакрыўджаны няўвагай чалавек крычыць знаёмаму, які ідзе па другім баку вуліцы:

— Чаму не здароўкаешся?
— А я цябе бачыў ужо, — спахопліваецца той.
— Дзе?
— У сне.

## МАЛА ЎЯЎЛЕННЯ

Аднаго матэматыка спыталі, што робіць адзін з яго вучняў.

— Ах, той! — махнуў рукой прафесар. — Стаў пісьменнікам. Замала меў уяўлення, каб займацца матэматыкай.

## ДА МЛЫНА

Едзе па дарозе пан і сустракае свайго найміта.

— Слухай, Іван, ты чаго так зажурыўся?
— Ды трэба да млына...
— Дык едзь! Млын жа працуе.
— Ды ў тым і справа, што няма чаго везці і няма на чым.

## ПА ГУЗІКАХ

У школьнай раздзявалцы патухла святло.

— Як ты цяпер пазнаеш сваё паліто? — запытаўся Андрэйка ў Пеці.
— Па гузіках.
— Цікава, якія ж яны ў цябе?
— А іх у мяне зусім няма.

## ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ





У вызначаных пункцірам месцах размясціць пяць костак даміно так, каб сума ачкоў уздоўж кожнага боку квадрата была роўнай 14.



„Адкрытай камерай".

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Ну, што, Мікола, кажуць, ты ўжо перабудаваўся? Гэта праўда?

— Я дык перабудаваўся, а вось варштат, на якім працую, перабудаваць нельга... Бо ён дарэвалюцыйны.

*

У Сміта памёр багаты дзядзька.

— Скажы, ён знаходзіўся ў здаровым розуме і цвёрдай памяці да апошняй мінуты? — пытае Сміта сябар.

— Не ведаю. Завяшчання яшчэ не апавяшчалі.

*

У камеру прывялі новага вязня.

— За што пасадзілі? — пытаюць яго насельнікі камеры.

— Я ўкраў бумажнік...

— Дык ты кішэннік? І ў гэтага прахвоста яшчэ хапіла нахабства з'явіцца тут, сярод высокіх дзяржаўных чыноўнікаў, барменаў, прадаўшчыкоў і лазеншчыкаў?!

З „Весніка Задрыпоніі"

## АБВЕСТКА ЛАБАРАТОРЫІ ЭТАЛОННАГА ЧАСУ

Календары з трыма нядзелямі ў тыдні, якія днямі выпусціла сябрына „Сонечная крыніца", лічаць несапраўднымі.

## АДКРЫЦЦЕ ДАЦЭНТОВІЧА

Лішнім з'яўляецца не толькі трэці, але і другі.

З Салаухіна

## КОЛЯ, НАЗАД!

Апынуўся я неяк у камандзіроўцы ува Франкфурце-на-Майне і ў пятніцу вечарам быў у гасцях у адным доме. Германія Германіяй, але дом рускі.

За сталом я прагаварыўся:

— А дык заўтра субота... лазневы дзень. Мае сябры пойдуць у лазню...

— Між іншым, — сказаў гаспадар стала, — я таксама заўтра іду ў лазню. Хочаце са мною? Толькі майце на ўвазе, лазня сумешчана. — І звярнуўся да жонкі: — Каця, ты не пойдзеш з намі?

Каця запунсавалася:

— Ды не ўжо... Калі б не знаёмы... пасля сённяшняй вячэры няёмка...

.......

Першае, што кінулася ў вочы ў лазні, — прасторнасць, малалюднасць і, відома, чысціня. Не сустрэўшы ніводнага чалавека, мы прайшлі ў тое памяшканне, дзе па сценах уладжаны шафкі для адзення. Тут ужо былі людзі, але зноў-такі вельмі мала. Так, праз тры шафкі ад мяне раздзявалася юная светлавалосая дзяўчына. Ну мала што? На пляжы таксама ляжым і загараем усе супольна. Я знарок замарудзіў сваё раздзяванне — паглядзець, які там купальнічак застанецца на суседцы, каб не трапіць у няёмкае становішча самому. Але на дзяўчыне пасля трох-чатырох не-спрытных рухаў не засталося ніякага купальніка. Як ні ў чым не бывала яна пайшла ў душавое аддзяленне. Было б смешна цяпер застацца і хадзіць па лазні ў трусах ці нават у плаўках.

.......

У той час бадзялася нас па лазні каля трыццаці чалавек. Можна было здагадацца, што некаторыя прыйшлі парамі: хлопец і дзяўчына, муж і жонка (але вось муж, жонка і знаёмы, як высветлілася ўчора за вячэрай, — было б няёмка). Большасць людзей прыйшлі, пэўна, самі па сабе, адзінокімі. Або сяброўкі. Або група сяброў.

Некалькі разоў я вяртаўся да думкі запісаць гэту невялікую „лазневую" прыгоду, але не хапала тут нейкага штрыха, завяршальнага мазка. З'явіўся гэты штрых, у старых маскоўскіх цэнтральных лазнях. Адзін з маіх сулазнікаў Коля расказваў, як ён таксама, аказваецца, пабываў у сумешчанай лазні. Праўда, здарылася гэта не ўва Франкфурце, а ў іншым германскім горадзе — Мюнхене. З ім у загранічную камандзіроўку паехаў малады наш спецыяліст, і паехаў ён заграніцу ўпершыню. Ну, перад першым выездам ён атрымаў, як звычайна, адпаведны інструктаж: „Мюнхен — горад складаны. Трэба пазбягаць алкаголю, начных весялільных прадпрыемстваў, выпадковых знаёмстваў, жанчын, адзінокіх прагулак па гораду..."

І вось немец, прадстаўнік фірмы, што прымала двух нашых спецыялістаў, дабрадушна прапанаваў госцям фірмы добрую сауну. Ці то слова „сумешчана" яны прапусцілі міма вушэй, ці то не зразумелі значэння гэтага слова, але пайшлі ў лазню з лёгкай душой і спакойным сэрцам. Супала так, што пакуль бралі білеты і раздзяваліся, лазня не выявіла перад імі сваёй сумешчанасці. Яны адчынілі дзверы і ступілі ў парыльню...

Навічок схапіў за руку свайго суайчынніка;

— Коля, назад! Правакацыя!